Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №5(78), сьнежань, 2012г.

# ІГАР АЛІНЕВІЧ

**Нарадзіўся 24 верасьня 1983 года.** Пасьля сярэдняй школы скончыў універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Па спецыяльнасьці інжынер-электроншчык. Удзельнічаў у працы над расійска-беларускім спадарожнікам. Знаёмыя Ігара называюць яго інтэлектуалам і надзвычай цікавым чалавекам. Сам ён лічыць сябе анархістам і заявіў на судзе, што не адмаўляецца ад сваіх поглядаў.



**Храналогія перасьледу**

Затрыманы сілавікамі ў цывільным 28 лістапада ў 2010 года ў Маскве, Ігар Аліневіч быў вывезены імі ў невядомым накірунку, і толькі праз суткі стала вядома пра яго знаходжанне ў СІЗА КДБ у Менску.

27 траўня 2011 года суд Заводскага раёна Менска пакараў Ігара **8 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.** Ён быў абвінавачаны паводле часткі 2 артыкула 339 КК РБ (хуліганства, здзейсненае групай асобаў) і частак 2 і 3 артыкула 218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры).

Першапачаткова яго абвінавачвалі ў злосным хуліганстве (ч. 2 арт. 339 КК) па эпізодах нападу на расійскую амбасаду ў ноч з 30 на 31 жніўня 2010 года, а таксама за ўдзел у акцыі каля Генштаба Узброеных сіл Беларусі 19 верасьня 2009 года. Затым абвінавачанне было пашырана: акрамя эпізоду па Генштабу, Аліневічу інкрымінавалі напады на казіно «Шангры Ла», на офіс банка «Масква-Мінск» 31 траўня 2010 года, на расійскую амбасаду 30 жніўня 2010 года і на Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) на Акрэсьціна 6 верасня 2010 года.

Падчас знаходжання ў СІЗА КДБ разам з іншымі вязьнямі Ігар зазнаў катаванні. Перад тым, як яго перавялі ў іншы СІЗА — па вул. Валадарскага ў Менску, маладому чалавеку прапаноўвалі працаваць на ўлады ў якасьці хакера, ад чаго той катэгарычна адмовіўся. Па словах маці Ігара, ён адмаўляўся ад супрацоўніцтва з КДБ тройчы, і менавіта за гэта на самай справе і трапіў пад крымінальны перасьлед.

Зараз адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі г. Наваполацка (Віцебская вобласьць).

# МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ

**Нарадзіўся 7 студзеня 1963 г. у Ваўкавыску.** Пасьля школы скончыў СПТВ-37 у суседняй Вялікай Бераставіцы, стаў механікам па рамонту аўтамабіляў. З 1981 году служыў у арміі ў Саратаўскай вобласьці Расіі кіроўцам у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Пазьней скончыў школу прапаршчыкаў, папрасіўся служыць у Аўганістан. За ахову маста пад Кандагарам і ўдзел у іншых аперацыях узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, двума медалямі — “За адвагу” і “За баявыя заслугі”. Звольніўся з арміі ў 1991 годзе ў Ваўкавыску старшым прапаршчыкам, стаў займацца бізнэсам.



**Храналогія перасьледу**

Быў зьняволены 7 ліпеня 2006 г. на 3 гады і 6 месяцаў з канфіскацыяй маёмасці. Суд прызнаў яго вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў са стратамі для бюджэту ў асабліва буйным памеры, а таксама — у ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасьці без рэгістрацыі і атрымання ліцэнзіі. Тэрмін зьняволення яму адлічваўся ад 15 кастрычніка 2005 году, калі яго пасадзілі ў сьледчы ізалятар у калёніі N1 у Менску.

Суд па канфіскацыі маёмасьці адбыўся пры канцы 2007 году. Мікалаю Аўтуховічу пакінулі дом, у зьняволенага засталася таксама аўтабаза, палова ягоных таксовак і адзін асобны будынак. Тым часам былі сканфіскаваныя 13 таксовак, кватэра і два склады. Да спагнання была прызначана сума больш як на 350 мільёнаў рублёў.

Ён быў адным з шасьці палітзьняволеных, вызваленых у выніку жорсткіх санкцый ЗША і ЕС, аднак 8 лютага 2009 г. яго зноў затрымалі і ў 2010 г. асудзілі нібыта за захоўванне зброі. Здароўе Аўтуховіча тады было сур’ёзна падарванае серыяй доўгіх галадовак пратэсту і недахопам неабходнай медыцынскай дапамогі.

Мікалай Аўтуховіч **асуджаны на 5 гадоў зняволення** паводле артыкула 295 частка 3 — “Незаконныя дзеянні адносна агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў”. Дадаткова Аўтуховіча асудзілі яшчэ на 2 месяцы зьняволення, матывавайшы тым, што быццам бы новае злачынства ён учыніў, не адбыўшы 2 месяцы з папярэдняга пакарання. Такім чынам, цяпер Мікалай Аўтуховіч асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы зьняволеньня ва ўмовах строгага рэжыму, без канфіскацыі маёмасці.

Адбываў пракаранне ў папраўчай калоніі №5 у г. Івацэвічы (Берасьцейская вобласьць). У сьнежні 2011 г. на месяц быў зьмешчаны ў ПКТ — памяшканне камернага тыпу. Рашэньнем суда, які адбыўся 17 студзеня 2012 г., быў пераведзены ў турму Гародні.

**Магістрат**

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 712-65-61, 713-22-00, 118-92-38, 711-24-47, 711-08-98, 651-32-53, 517-32-53, 36-18-47, 27-23-39, 23-59-63, 37-27-39.**




**адрас: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

**Аляксандр (Алесь) Віктаравіч Бяляцкі нарадзіўся 25 верасня 1962 года ў Карэліі.**

У 1964 годзе бацькі вярнуліся ў Беларусь. Алесь скончыў сярэднюю школу № 5 Сьветлагорску.

У 1979 годзе паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэту, у 1984 атрымаў дыплом выкладчыка філалогіі. У 1988 г. выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралог Беларусі», быў сябрам Арганізацыйнага камітэту Беларускага народнага фронту «Адраджэньне», сакратар Управы (1996-1999), намеснік старшыні (1999-2001) БНФ "Адраджэньне", з'яўляўся заяўляльнікам адной з першых масавых акцый "Дзяды". У 1990 годзе выступіў адным з арганізатараў Беларускай Каталіцкай Грамады.

Ад 1996 г. з'яўляеца старшынёй Праваабарончага цэнтру «Вясна», які ў 2003 быў пазбаўлены дзяржаўнай рэгістрацыі рашэннем Вярхоўнага Суда. Фактычна гэта азначала ліквідацыю арганізацыі.

Партнёрамі "Вясны" сёння з'яўляюцца больш за 15 міжнародных і замежных праваабарончых арганізацый, а сам праваабарончы цэнтр прыняты сябрам у два міжнародныя аб'яднанні: "Міжнародная федэрацыя правоў чалавека" (The International Federation for Human Rights - FIDH) і "Еўрапейская сетка арганізацыі па назіранню за выбарамі" (ENEMO).

У 2007 годзе Алесь Бяляцкі быў абраны віцэ-прэзідэнтам FIDH. Алесь Бяляцкі двойчы вылучаўся на Нобелеўскую



прэмію міра: у 2006 і 2007 гадах. Трэці раз такое вылучэнне адбылося ўжо пасьля яго арышту ў 2011 годзе.

**Храналогія перасьледу**

Алесь Бяляцкі застаецца пад арыштам з 4 жніўня 2011 г. Яму выставілі абвінавачанне на падставе часткі 2 артыкулу 243 Крымінальнага кодэксу РБ — "утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры". Вызваленя Бяляцкага патрабуюць беларускія і міжнародныя праваабарончыя структуры, кіраўніцтва Еўразвязу, ЗША і шэрагу іншых дэмакратычных краінаў.

24 лістапада 2011 г. асуджаны Першамайскім судом Менска **на 4,5 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці.** 1 сьнежня 2011 г. (пасьля прысуду, але яшчэ да разгляду касацыйнай скаргі) быў пераведзены ў Жодзінскую турму №8.

17 лютага 2012 г. стала вядома аб пераводзе Бяляцкага з Жодзіна ў папраўчую калонію г. Бабруйска, а пазьней — што этап праходзіць праз менскую "Валадарку", дзе ён прабыў да 28 лютага. Зараз адбывае пакаранне ў бабруйскай калоніі.

# ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ

**Яўген Васьковіч нарадзіўся ў Бабруйску 26 лютага 1990 года ў сям'і рабочых.** Пасьля школы вучыўся завочна на журналісцкім аддзяленьні філалагічнага факультэту Магілёўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Куляшова. Працаваў у газэце «Бобруйский курьер». Удзельнік Плошчы-2010, за якую быў пакараны — адседзеў 12 сутак на «Акрэсьціна».

**Храналогія перасьледу**

Яго затрымалі 17 студзеня ў Магілёве. У траўні 2011 году Яўген Васьковіч быў асуджаны разам з Арцёмам Пракапенкам і Паўлам Сырамолатавым на **7 гадоў пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму** за спробу падпалу ў ноч на 17 кастрычніка 2010 году будынку Бабруйскага КДБ.

Яўген Васьковіч на судзе заявіў, што не шкадуе аб зробленым. Ён сказаў, што лічыць сябе літвінам, а сваім абавязкам — абараняць нацыянальныя беларускія каштоўнасьці.



"За іх я памерці гатовы, таму што жыццё кароткае, а радзіма вечная", - сказаў апазіцыянер і скончыў свой выступ словамі "Жыве Беларусь!".

Спачатку адбываў пакараньне ў Магілёўскай калёніі № 15, а 12 кастрычніка 2011 года пераведзены на больш жорсткі рэжым — у памяшканне крытага тыпу (ПКТ), у Магілёўскую турму № 4. Там ён некалькі разоў трапляў у штрафны ізалятар.

## ЗЬМІЦЕР ДАШКЕВІЧ

**Нарадзіўся 20 ліпеня 1981 г. ў вёсцы Кушнеры Івацэвіцкага раёну Берасьцейскай вобласьці.** У 2001 годзе далучыўся да моладзевага нацыянальнага руху "Малады Фронт".

Увосень 2001 г. быў адным з абаронцаў нацыянальнага некропалю Беларусі "Курапаты".



**Храналогія перасьледу**

18 снежня 2010 года быў затрыманы ў Менску. Паводле інфармацыі ГУУС Менгарвыканкаму, у двары жылога дома па вуліцы Янкі Брыля яны разам з таварышам па МФ Эдуардам Лобавым нібыта зьбівалі грамадзян Канстанціна Савіцкага і Алега Малышава. Затрыманьне Дашкевіча і Лобава было прэвентыўнай мерай міліцыі напярэдадні выбараў прэзідэнта РБ.

24 сакавіка 2011 г. Зьміцер быў **асуджаны на 2 гады зьняволення ў калоніі агульнага рэжыму.**

28 жніўня 2012 году, проста ў Глыбоцкай калоніі, асуджаны ізноў — за "злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі". Суд, які адбыўся ў зачыненым рэжыме, дадаў да тэрміну Зміцера Дашкевіча **яшчэ адзін год.** Такім чынам, гэта ўжо чацвёрты суд над лідэрам МФ па крымінальным артыкуле, пачынаючы з 2006 году. У ноч на 4 верасьня 2012 г. этапаваны з Глыбоцкай калоніі ў СІЗА г. Віцебска. 20 верасьня стала вядома пра знаходжанне Зьмітра Дашкевіча ў калоніі № 20 г. Мазыра. Быў абвінавачаны ў непадпарадкаванні і парушэнні рэжыму. 30 кастрычніка 2012 года рашэннем выязнога суда быў пераведзены з Мазырскай калоніі ў крытую турму.

## ЭДУАРД ЛОБАЎ

**Актывіст "Маладога Фронту". Нарадзіўся ў Вільні 1-га сьнежня 1988 года.** Ужо ў 8-м класе сярэдняй школы вырашыў зьвязаць сваё жыццё з войскам. Чытаў адмысловую літаратуру, займаўся спортам. На службу трапіў у Віцебскі дэсант. Па вяртанні з войска Эдуард актыўна ўключыўся ў працу "Маладога Фронту", неўзабаве стаў кіраўніком менскай гарадской арганізацыі.



**Храналогія перасьледу**

Эдуард Лобаў быў **асуджаны да чатырох гадоў зьняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму** 24 сакавіка 2011 г. у судзе Маскоўскага раёну Менска суддзёй Аленай Шылько. 22-гадовы актывіст МФ быў прызнаны вінаватым на падставе часткі 3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса — "асабліва злоснае хуліганства".

Да суда Эдуард утрымліваўся ў Жодзінскім СІЗА, з пачатку сакавіка 2011 г. — у Менскім СІЗА па вул. Валадарскага.

З 7 красавіка 2011 г. адбывае прысуд у Івацэвіцкай калоніі № 22 (так званых "Ваўчыных норах"). У адным з лістоў напачатку 2012 г. вязень піша, што ён сячэ дровы, і што ў калоніі, якая знаходзіцца ў лесе, не вельмі добра з радыяцыйным фонам: яна знаходзіцца на месцы былой вайсковай часткі.

## МІКАЛАЙ ДЗЯДОК

**Мікалай Дзядок нарадзіўся 23 жніўня 1988 года ў г. Брагіне на Гомельшчыне.** Пасьля школы скончыў юрыдычны каледж БДУ. Працаваў у калектарскай фірме. На момант арышту быў студэнтам 2-га курса завочнага аддзялення праграмы «Паліталогія і еўрапейскія даследаванні» Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Пасьля затрымання ў верасьні 2010 года Мікалая трымалі ў ізалятары па 3 дні, а пасля «перазатрымлівалі» па новых справах: аб хуліганстве, нават крадзяжы — але абвінавачанне не прад'яўлялі да кастрычніка.

**Храналогія перасьледу**

Мікалай Дзядок быў затрыманы 3 верасня 2010 года ў якасьці падазраванага па справе аб "нападзе на амбасаду Расійскай Федэрацыі" у ноч на 31 жніўня ў Менску. Праваахоўныя органы Беларусі арыштавалі маладога чалавека на трое сутак і зьмясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

Не сабраўшы дастатковай колькасьці доказаў, якія б пацьвярджалі дачыненне Мікалая да вышэйназванай справы, праваахоўныя органы працягнулі тэрмін яго ўтрымання ў ізалятары часовага ўтрымання, але гэтым разам па абсалютна іншай справе ("аб нападзе на Дом прафсаюзаў").

Аднак калі абвінавачанне ў яго дачыненні ізноў не набыло належнай падставы, Мікалай ужо трэцім разам быў затрыманы як падазроны па справе "аб нападзе на аддзяленне "Беларусбанка".

Пасля таго, як усе магчымасці да прад'яўлення ўцямных нагодаў да затрыманняў былі вычарпаныя, Мікалаю сталі прыпісваць іншыя супрацьпраўныя дзеянні, у прыватнасці, крадзяжы і хуліганства.

24 верасня 2010 г., фактычна адбыўшы больш за 20 сутак пад арыштам, Мікалай Дзядок быў абвінавачаны ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі ля Генштаба Беларусі, і 1-га кастрычніка яму было прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле 339 ч.2 — "хуліганства".

27 траўня 2011 г. у Заводскім судзе горада Менска суддзя Жанна Хвайніцкая вынесла Мікалаю прысуд — **4,5 гады пазбаўлення волі** (г.зв «справа анархістаў). Да гэтага моманту Мікалай Дзядок ужо больш за 8 месяцаў знаходзіўся пад арыштам.

Зараз адбывае пакаранне ў Магілёўскай калоніі № 17.

# ВАСІЛЬ ПАРФЯНКОЎ



**Нарадзіўся 30 жніўня 1983 году ў Менску.** Быў актывістам Партыі Свабоды. Актыўна ўдзельнічаў у абароне Курапатаў у 2002 годзе. Падчас выбараў-2010 Васіль актыўна ўдзельнічаў у грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!", быў актывістам штаба Уладзіміра Някляева, збіраў подпісы за яго, праводзіў агітацыю. Удзельнік Плошчы-2010.

**Храналогія перасьледу**

Затрыманы ў Менску 4 студзеня 2011 г. па падазрэнні ў датычнасці да "масавых беспарадкаў" 19 снежня 2010 г. Праз трое сутак апынуўся ў менскім СІЗА па вул. Валадарскага як фігурант крымінальнай справы па арт.293.

Ягоны прысуд стаў самым першым па "справе 19 снежня": 17 лютага 2011 г. Фрунзенскі суд Менску асудзіў Васіля на **4 гады калоніі строгага рэжыму.** 11 жніўня 2011 г. памілаваны Лукашэнкам і вызвалены.

29 траўня 2012г. Васіль Парфянкоў быў асуджаны паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь судзьдзём Першамайскага раёну Менску Сяргеем Бандарэнкам. Прэвэнтыўны нагляд тэрмінам на адзін год, у парушэньні якога прызнаны вінаватым былы палітвязень, быў устаноўлены за ім з 5 студзеня 2012 году. Падставай для гэтага стаў ўдзел Парфянкова ў грамадзка-палітычным жыцьці.

24 ліпеня Менскі гарадзкі суд не задаволіў касацыйную скаргу Парфянкова на прысуд аб арышще на 6 месяцаў за невыкананьне умоваў прэвэнтыўнага нагляду, усталяванага судом.

9 жніўня 2012 г. Васіль Парфянкоў быў узяты пад варту ізноў. Адбывае пакаранне ў калоніі г. Баранавічы.

# АРЦЁМ ПРАКАПЕНКА



**Арцём Пракапенка родам з Гародні. Нарадзіўся 27 ліпеня 1990 году.** Пасьля сканчэньня школы вучыўся ў Бабруйску.

Арцёма Пракапенку, Яўгена Васьковіча і Паўла Сырамолатава судзілі па двух артыкулах Крымінальнага Кодэксу – «Злоснае хуліганства» і «Наўмыснае прычыненьне шкоды ў асабліва буйных памерах».

18 траўня 2011 г. Арцё Пракапенка асуджаны судом г. Бабруйска **на 7 гадоў пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму,** пакараньне адбывае калоніі № 17 г. ў Шклова Магілёўскай вобласьці.

# МІКОЛА СТАТКЕВІЧ



**Нарадзіўся 12 жніўня 1956 года.** З 1995 г. — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).

19 сьнежня 2010 г. быў затрыманы. 26 траўня 2011 г. суддзя Людміла Грачова агучыла ягоны прысуд: **6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму** (пракурор — Кірыл Чубкавец).

12 студзеня 2012 года на закрытым паседжаньні Шклоўскі раённы суд асудзіў Статкевіча да больш строгага рэжыму ўтрымання — 3 гадоў зьняволення ў крытай турме. (Суддзя — Віталь Волкаў). Прычынай было названае "злоснае парушэньне рэжыму".

# ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ



**Нарадзіўся 30 сьнежня 1976 г. у Воршы.** Скончыў геафак БДУ. У 1999-2003 гг. быў намесьнікам старшыні Партыі БНФ, з 1999 да 2004 гг. — старшынём «Маладога Фронту». Зараз з'яўляецца сустаршынём аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя».

У ноч на 20 сьнежня 2010 г. арыштаваны дома і зьмешчаны ў СІЗА КДБ. 16 траўня 2011 г. у судзе Заводскага раёну Менска П.Севярынец **асуджаны на 3 гады "хіміі"**. Адбывае пакараньне ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну Берасьцейскай вобласьці. Працуе ў фермерскай гаспадарцы каля сьпецкамендатуры.

# АЛЯКСАНДР ФРАНЦКЕВІЧ



**Нарадзіўся 6 траўня 1990 года на Віцебшчыне, у г. Наваполацку.** Знаходзіцца пад вартай з 3-га верасьня 2010 году.

20 верасьня Аляксандру Францкевічу прад'явілі абвінавачаньне па ч.2 арт.339 КК РБ. У чаканьні суда ўтрымліваўся ў менскім СІЗА на вул. Валадарскага. 24 траўня 2011 года Аляксандр Францкевіч быў асуджаны Заводзскім судом Менска **на 3 гады пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Адбывае прысуд у калоніі №22 каля г. Івацэвічы (Берасьцейская вобласьць) "Ваўчыныя норы".